ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 11 (1545) | Аўторак, 7 лютага 1961 года | Цана 4 кап.

## Паведамленне ТАСС

**У адпаведнасці з планам стварэння і адпрацоўкі касмічных караблёў павышанай вагі, 4 лютага 1961 года ў Савецкім Саюзе з дапамогай удасканаленай многаступеньчатай ракеты ажыццёўлен запуск цяжкага штучнага спадарожніка Зямлі. Вага спадарожніка, без уліку вагі апошняй ступені ракеты-носьбіта, складае 6.483 кілаграмы. На спадарожніку ўстаноўлена радыётэлеметрычная сістэма для кантролю параметраў элементаў канструкцыі і апаратуры для траекторных вымярэнняў. Уся бартавая апаратура спадарожніка на ўчастку яго вывядзення і пры далейшым руху па арбіце функцыяніравала нармальна.**

**Папярэднія даныя, атрыманыя з дапамогай наземнага вымяральна-вылічальнага комплексу, дазволілі вызначыць наступныя параметры арбіты спадарожніка: перыяд абарачэння 89,80 мінуты, вышыня перыгея 223,5 кіламетра, вышыня апагея 327,6 кіламетра, нахіленне арбіты 64 градусы 57 мінут.**

**Замераныя параметры арбіты спадарожніка блізкія да разліковых.**

**Пастаўленыя пры запуску спадарожніка навукова-тэхнічныя задачы выкананы.**

НАШЫ МАЯКІ

## Рукі залатыя

Быў снежань, але можна было падумаць, што пачынаецца вясна — так цёпла было на двары. Прыемна ў такі час прайсціся па лесе, падыхаць водарам сасны.

Любоў Пракопаўна пасля снедання прапанавала сяброўкам пайсці пагуляць. Яны жылі ў адным пакоі дома адпачынку, пасябравалі за невялікі час, дзяліліся навінамі. Усе яны былі руплівымі працаўніцамі ў нашай сельскай гаспадарцы. Зінаіда Пятроўна Прытыка — даярка саўгаса «Жлобін», Настасся Якаўлеўна Каралёва — агароднік саўгаса «Малевічы» Жлобінскага раёна і Любоў Пракопаўна Круглова — свінарка саўгаса «Парэчча» Акцябрскага раёна.

... Сяброўкі неўзабаве стаялі на стромкім беразе Сожа. За ракой раскінуўся калгасны луг, густа ўстаўлены стагамі сена. А далей ледзь-ледзь прыкметны абрысы дамоў, фабрычных камінοў Гомеля.

— Як хораша тут, — сказала Зінаіда Прытыка.

— Але чамусьці дадому цягне, — прагаварыла Круглова.

— Па Пятру сваім засумавала, — пажартавала Зінаіда.

— Не, жанкі, пра гэта вы дарэмна, — усміхнулася Круглова і ў жарт ці ўсур'ёз уздыхнула: — Па рабоце рукі свярбяць. Пэўна, не дабуду я тут да канца.

— Вось дык надумалася! — схамянулася Настасся Каралёва. — І тыдня не прайшло, як прыехала ў «Чонкі», а ўжо дадому хочаш ехаць. Ну, павіншаваў ЦК партыі і ўрад наш з працоўнымі перамогамі. Добра. Вось і адпачывай, набірайся сіл. А вернешся ў саўгас — працуй на ўсе рукі, на ўвесь спрыт.

... Працоўныя перамогі... Нялёгка даліся яны. Не жартачкі ж адкарміць адной за год больш тысячы свіней. Летась лічылася гэта рэкордам. Нават спрэчкі тады разгарэліся ў іх на ферме: ці здолеюць свінаркі спаборнічаць з Яраславам Чыжом, ці хопіць у іх умення, энергіі на гэта. Гаварылі многа і доўга. Думкі былі розныя — і за, і супраць. А Любові Пракопаўне карцела сказаць: — «Я бяруся дагнаць Яраслава Чыжа».

Але ж не толькі ад яе адной залежыць поспех. Патрэбна дапамога таксама і дырэкцыі саўгаса. І не малая. У свінарніку неабходна пераабсталяваць загоны і многае іншае што зрабіць.

Любоў Пракопаўна так урупілася ў свае думкі, што нават не пачула, як дырэктар саўгаса Сяргей Андрэевіч Круглоў выклікаў яе прозвішча. Тады свінарка штурхнула яе ў бок: «Пра цябе гавораць». А дырэктар зноў паўтарыў:

— Я лічу, таварышы, што Любоў Пракопаўна Круглова справіцца з гэтай задачай. Хопіць у яе і сіл, і энергіі паспаборнічаць з Чыжом. Ці не так?

— Сіл то хопіць, — не спяшаючыся адказала Любоў Пракопаўна. — І жаданне ёсць. Але адна я з гэтай задачай не спраўлюся, — і жанчына выказала прысутным свае меркаванні, прапановы — усё тое, аб чым яна толькі што думала.

— Згодзен. Умовы для вас створым.

... Як непрыкметна бяжыць час. Здаецца, гэтая размова адбылася зусім нядаўна. Прайшоў толькі год. Некаторыя ў саўгасе не верылі ў абавязацельства Кругловай. «Бачты, — цішком гаварылі яны, — тысячу свіней хоча за год адкарміць. Хвалько. — І кпліва працягвалі: — «Тысячніца...»

Непрыемна было Любові Пракопаўне слухаць такія гаворкі. Не для сябе ж яна старалася. Звычайна, на адкорме такога гурту свіней было занята тры — чатыры чалавекі. А тут узялася яна адна. Праўда не зусім адна. Многа знайшлося ў Любові Пракопаўны памочнікаў. Гэта і ўпраўляючы аддзялення саўгаса Аляксандр Рудзянкоў, і брыгадзір Мікалай Лугоўскі, і ветэрынарны фельчар, сакратар пярвічнай партыйнай арганізацыі Андрэй Адзінец, і шафёр бардавоза Пятро Раговіч, і сяброўкі па рабоце, а таксама і яе муж Пятро Селіванаў. Гэта ж яму, Пятру Селіванаву, даводзілася часта за жонку гатаваць вячэру, калі Любоў Пракопаўна позна затрымлівалася на ферме. А гэта не лёгка. Кожны ж ведае і разумее, што азначае для мужчыны хатняя гаспадарка. Здараліся кур'ёзы і з яе Пятром. Памятае, як аднойчы вярнулася яна з фермы стомленая (якраз тады прымала новую групу парасят на адкорм), а пакуль дабралася дадому — так вымакла пад дажджом, што вопратку хоць выкручвай. Наліла талерку баршчу, які зварыў муж. Паспрабавала і ледзь стрымалася — аж да горычы салёны быў боршч. Знайшла яна тады нейкую прычыну, каб паслаць Пятра ў сенцы, а сама хуценька «разбавіла» боршч гатаванай вадой. Не будзеш жа выгаворваць яму за неспрактыкаванасць. Не па прымусу, а ад шчырага сэрца гатаваў ён вячэру. Дапамагаў ёй чым мог. Ведаў, што яна вельмі стамляецца на рабоце. А колькі разоў ноччу, асабліва вясной, калі выбілася першая траўка, трымаючы ў руках боты, асцярожна на дыбачках, каб не разбудзіць мужа, Любоў Пракопаўна выходзіла з дому, абувалася на двары і бегла на ферму.

Непрыкметна, у працы беглі дні, тыдні, месяцы. У чырвоным кутку вісела насценная газета «Маланка». Паведамлялася, што ў яе групе свіней за месяц атрымана вышэйшая ў саўгасе сярэднесутачная прывага — больш чым па 600 грамаў на галаву. Гэта радавала, надавала сіл у працы. А неўзабаве і «гаваруны-малаверы» змоўклі. Тады на саўгасным сходзе сакратар парткома Пятро Шамшура сказаў:

— Тут недаверкі плёткі пускалі пра Любоў Пракопаўну Круглову, кпілі з яе. Называлі пагардліва «тысячніцай». А яна ж і сапраўды тысячніца. І паўгода не прайшло, а свіней адкарміла ўжо больш, чым за леташні год. Мы ганарымся, што тысячніца Любоў Пракопаўна Круглова жыве і працуе ў нашым саўгасе.

Апраўдала гэтае званне Любоў Пракопаўна Круглова. Менш чым за год, адкарміла 1 033 свінні агульнай вагой 1 015 цэнтнераў. А калі саўгасныя рахункаводы зрабілі падлікі, аказалася, што яна давяла сабекошт кілаграма свініны да 6 рублёў (на старыя грошы), на тры з лішнім рублі менш, чым планавалася ў сярэднім па саўгасу.

Любоў Пракопаўна стаяла, прытуліўшыся да пляча сяброўкі, і задумліва глядзела, як унізе, пад абрывам, плаўна коціць свае воды ціхі Сож.

— Чаго ж ты змоўкла? — штурхнула раптам яе ў бок Зінаіда Прытыка. — Сумуеш па чым, ці што? — добразычліва пытала яна.

— Сумаваць? Ды што ты? Паглядзі, як цудоўна навокала, — усміхнулася Круглова. — Можа заспяваем?..

Э. ЧЭЧКА.

## Літаратура — будоўлям сямігодкі

Будоўлі сямігодкі... З імі звязана ўсё працоўнае жыццё нашай рэспублікі. У Полацк і Салігорск, Шацілкі і Баранавічы заводы рэспублікі дасылаюць лепшае абсталяванне. Мастакі едуць туды, каб знайсці герояў будучых твораў, пісьменнікі прысвячаюць ім аповесці і вершы.

Добрую справу робяць работнікі бібліятэк і кнігагандлёвых арганізацый. Яны дасылаюць на будоўлі палітычную, мастацкую і навукова-тэхнічную літаратуру, дапамагаюць укамплектаванню бібліятэк. Так, напрыклад, днямі работнікі Мінскай абласной бібліятэкі імя Пушкіна ўрачыста перадалі салігорцам свой падарунак: 1787 кніг. Сярод іх творы Ул. І. Леніна, артыкулы дзеячоў Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада, розныя даведнікі па тэхніцы. Амаль трэцяя частка — мастацкая літаратура. Тут зборы твораў Пушкіна, Талстога, Гогаля, вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа, аповесці і раманы М. Лынькова, Я. Маўра, І. Гурскага і інш.

Некалькі каштоўных кніг даслалі салігорцам работнікі бібліятэчнага калектара.

За апошні год работнікі Віцебскага кнігагандлю накіравалі ў бібліятэку Полацкага нафтаперапрацоўчага завода рознай літаратуры на дзве тысячы рублёў. Цяпер у бібліятэцы каля пяці тысяч тамоў кніг.

З кожным годам папаўняецца бібліятэка Васілевіцкай ДРЭС у Шацілках. Сёлета на набыццё літаратуры адпушчана значная сума сродкаў. Работнікі гэтай культасветустановы набудуць новыя творы беларускіх пісьменнікаў, папоўняць свае паліцы кнігамі класікаў сусветнай літаратуры.

## Сто выязных брыгад

У канцы мінулага года работнікі мастацтва рэспублікі ўзялі абавязацельствы па абслугоўванню сельскага гледача спектаклямі і канцэртамі. Як выконваюцца гэтыя абавязацельствы, сведчыць такі факт. Толькі ў студзені гэтага года тэатральныя калектывы рэспублікі паказалі на раённых сцэнах сто спектакляў. Гэта ў асноўным п'есы савецкіх аўтараў, прысвечаныя сённяшняму жыццю працоўных краіны. Спектаклі адбыліся ў Стаўбцоўскім, Барысаўскім, Лагойскім, Баранавіцкім і іншых раёнах.

Днямі калектыў Тэатра імя Я. Купалы наведаў калгас «Авангард» Пухавіцкага раёна і паказаў спектакль «Мільён за ўсмешку». Тэатр імя М. Горкага пазнаёміў працаўнікоў Дзяржынска, Плешчаніц, Слуцка з пастаноўкамі па п'есах «Іркуцкая гісторыя», «Чацвёра пад адным дахам», «Барабаншчыца». У Радашковічах і Чэрвені са спектаклямі «Няроўны бой» і «Казачны домік» пабывалі артысты Тэатра юнага гледача. Сем вялікіх канцэртаў далі артысты Тэатра оперы і балету.

Частымі гасцямі ў раёнах і калгасах рэспублікі былі Тэатр імя Я. Коласа, Гродзенскі, Магілёўскі, Брэсцкі, Бабруйскі драматычныя калектывы.

## Мацаваць творчыя сувязі

У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР адбылася сустрэча мастакоў, пісьменнікаў, кампазітараў і грамадскасці сталіцы. Прысутныя абмяняліся думкамі і дамовіліся ў бліжэйшы час правесці шырокае абмеркаванне твораў мастацкай выстаўкі, якія экспануюцца ў музеі. Выступаўшыя зрабілі рад слушных заўваг. Скульптар З. Азгур адзначыў, што пісьменнікі мала цікавяцца работамі мастакоў і амаль што зусім не выказваюць у друку сваіх уражанняў аб карцінах. Саюзам пісьменнікаў і мастакоў неабходна падтрымліваць больш жывую творчую сувязь — арганізоўваць сумесныя абмеркаванні новых работ, наладжваць выстаўкі, абменьвацца думкамі.

З выказваннем З. Азгура пагадзіўся І. Шамякін. Ён сказаў:

— Многія творы выстаўкі сапраўды хвалююць, але ж ёсць і слабыя па сваму кампазіцыйнаму вырашэнню.

Нельга не пагадзіцца з І. Шамякіным, што добрай карцінай можна прызнаць толькі тую, у якой мастак глыбока раскрывае, а не фатаграфуе рэчаіснасць. Аб тым, што неабходна ўмацоўваць творчыя сувязі пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, гаварыў А. Кучар. У сустрэчы прынялі ўдзел М. Ткачоў, М. Аладаў, Я. Зайцаў, Р. Кудрэвіч, І. Ахрэмчык, І. Нісневіч і інш.

*КУЛЬТУРНА-АСВЕТНАЙ РАБОЦЕ — ШЫРОКІ РАЗМАХ*

## ТРОХГОДКА КАЛГАСА

Якаў Міхайлавіч Шахоўскі — старшыня калгаса «Перамога» — чалавек ініцыятыўны. Ён вялікую ўвагу аддае культуры на вёсцы.

Якаў Міхайлавіч калісьці ўзначальваў аддзел культуры райвыканкома. Цяпер ён кіруе вялікай гаспадаркай. Справы ў арцелі ідуць добра. 269 цэнтнераў малака і 51 цэнтнер мяса атрымаў калгас у мінулым годзе на кожныя сто гектараў угоддзяў.

— Пасля плённай працы кожны калгаснік мае поўнае права на цікавы і карысны адпачынак, — разважае старшыня калгаса.

Ініцыятарам многіх цікавых і змястоўных культурна-масавых мерапрыемстваў на вёсцы выступіў Я. Шахоўскі. Па яго ініцыятыве распрацаваны трохгадовы план развіцця культуры ў калгасе. План зацверджан агульным сходам членаў арцелі. План гэты няўхільна выконваецца.

Вось факты з культурнай хронікі калгаса за мінулы год.

У пачатку года адкрыты клуб і агульнаадукацыйная школа для жывёлаводаў.

Увайшлі ў практыку тэматычныя вечары, якія праводзяцца партарганізацыяй і саветам клуба. Прайшлі тры кінафестывалі, прысвечаныя дасягненням савецкай кінематаграфіі, студыі «Беларусьфільм» і творам кінамастацтва краін народнай дэмакратыі.

Летам правялі вечар паэзіі і канферэнцыю кінагледачоў.

Арганізавана шэсць выездаў калгаснікаў у Бабруйскі тэатр для калектыўнага прагляду спектакляў і іх абмеркавання.

Пачаў выходзіць штомесячны фотачасопіс, які расказвае аб перадавіках калгаснай вытворчасці.

У калгасе адкрыўся і працуе ўніверсітэт культуры. Яго слухачамі з'яўляюцца звыш 300 членаў арцелі.

Цяпер у «Перамозе» ёсць свая швейная майстэрня. Два разы на тыдзень па просьбе праўлення сюды прыязджае вопытны кравец з узорамі тканін і прымае заказы.

Адкрыта ў калгасе і цырульня. Літаральна ў бліжэйшыя дні адкрыецца і фатаграфія.

Многае ўжо зроблена па паляпшэнню культурна-бытавога абслугоўвання членаў арцелі, а яшчэ больш трэба зрабіць. Давайце зазірнём у трохгадовы план.

Ужо ў сёлетнім годзе мяркуецца адкрыць камбінат бытавога абслугоўвання з цэхамі пашыву мадэльнага абутку і моднага адзення, рамонту веласіпедаў і гадзіннікаў. Пачнуць працаваць добра абсталяваны дзіцячы сад, стацыянарныя бібліятэкі ў вёсках Забалоцце і Сімгаравічы, клуб піянераў з філіялам ад Бабруйскай музычнай школы. На ўсіх фермах устанаўліваюцца душавыя кабінкі для свінарак і даярак, а ў вёсках Плёсы і Забалоцце будуць пабудаваны лазні з пральнямі.

Усе паляводчыя брыгады будуць мець спартыўныя пляцоўкі і скверы з зялёнымі насаджэннямі і кветкамі.

Па тыпавых праектах калгас разгарнуў будаўніцтва чатырох жылых дамоў.

Паглядзім у чарговыя старонкі альбома калгаснай трохгодкі. Год 1962. Будзе завершана электрыфікацыя ўсіх дамоў калгаснікаў, прыведзены ў культурны выгляд усе дарогі і вуліцы, праведзены вялікія работы па азеляненню вёсак, пабудаваны стадыён, пракладзен водаправод.

План 1963 г. прадугледжвае мець чайную і магазін кулінарыі, яшчэ восем новых жылых дамоў. Мяркуюць калгаснікі стварыць свой Народны тэатр. У 1963 г. будзе завершана поўная перапланіроўка вёсак. Цэнтр калгаса — вёска Плёсы — ператворыцца ў прыгожы культурны пасёлак з тратуарамі, паркам і г. д.

Калгасная трохгодка ўступіла ў дзеянне.

М. БЯРЭЗІНСКІ,
Я. ГЕЙКЕР.

Бабруйскі раён.

## КАНЦЭРТНЫЯ АБЯЦАНКІ

Дырэктар Лагойскага раённага Дома культуры Аляксандр Кудраўцаў сядзеў за сталом і перапісваў начыста план работы РДК на чарговы месяц. Неўзабаве ў дзверы пастукалі.

— Заходзьце, — прамовіў ён і, убачыўшы перад сабой мастацкага кіраўніка, узрадаваўся: — А я, прызнацца, чакаў цябе. Вось сяджу над планам і думаю: хоць бы адзін канцэрт.

— А дзе ж узяць тыя канцэрты? — буркнуў Лапыцька.

— Як дзе? Рыхтаваць трэба. Ты ж, здаецца, учора праводзіў рэпетыцыю?

— Думаў, ды нічога не атрымалася. Падвялі хлопцы.

— Тады можа каго запросім з раёна або з Мінска?

— Не спяшайся. Будзем спадзявацца, што і на гэты раз нас выручаць дзяўчаты з камбіната.

Жыхары гарадскога пасёлка Лагойск добра знаёмы з калектывам мастацкай самадзейнасці камбіната бытавога абслугоўвання. А вось самадзейныя калектывы, якія раней былі ў райспажыўсаюзе і некаторых іншых установах, даўно распаліся і пра аднаўленне работы іх ніхто не дбае.

А некалькі ж гадоў назад арганізацыя канцэртаў не была праблемай у Лагойску. У той час вакол раённага Дома культуры групавалася ўся таленавітая моладзь. Працавалі драматычны, танцавальны, харавы і іншыя гурткі. У іх удзельнічалі юнакі і дзяўчаты амаль з усіх прадпрыемстваў і ўстаноў. Цяпер ад тых гурткоў застаўся толькі ўспамін.

Хто вінават, што пры РДК ужо доўгі час няма ніякага самадзейнага калектыву?

— Нам не шанцуе на кадры, — тлумачыць тав. Кудраўцаў. — Толькі за мінулы год змянілася два мастацкія кіраўнікі.

— А што ж перашкаджае цяпер? — запыталі мы.

— Бяромся, — адказвае дырэктар.

Тав. Лапыцька прыехаў працаваць мастацкім кіраўніком у Лагойскі РДК летась у кастрычніку. Перад гэтым ён скончыў дзесяцімесячныя курсы дырыжораў-харавікоў пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Па характарыстыцы Кудраўцава, ён здольны чалавек, які можа добра арганізаваць работу.

Але прайшло тры месяцы, а воз, як кажуць, і сёння там. Тав. Лапыцька, як і яго папярэднікі, не праяўляў ініцыятывы ў рабоце. Ён «не справіўся» яшчэ пабываць ні ў адным маладзёжным калектыве.

Аб стылі «работы» супрацоўнікаў Дома культуры сведчыць хоць бы такі факт. У фае РДК два разы на тыдзень наладжваюцца танцы. Патанцаваць, як правіла, збіраецца многа юнакоў і дзяўчат. І вось тых, хто выкажа жаданне прыняць удзел у мастацкай самадзейнасці, вырашылі пускаць на танцы бясплатна. Жадаючых набралася хоць адбаўляй. Каб не траціць грошай на білеты, ледзь не кожны другі чалавек запісаўся ў харавы гурток. А што атрымалася? На рэпетыцыі ніхто не з'явіўся.

А чаму б мастацкаму кіраўніку не схадзіць на месца, дзе працуе моладзь, не пагутарыць з ёй? На гэта ў яго, на жаль, не знайшлося ні часу, ні жадання. А колькі таленавітых дзяўчат і юнакоў чакае добрага арганізатара ў прамкамбінаце, рэмбудканторы, бальніцы!

Ёсць у Лагойску музычная школа. Яна працуе ўжо чацвёрты год. Вучні гэтай школы з ахвотай маглі б выступіць з цікавым канцэртам. Але ні мастацкі кіраўнік, ні дырэктар РДК не прыцягваюць вучняў да ўдзелу ў самадзейнасці, не трымаюць сувязі з юнымі музыкантамі.

Ніхто не зробіць сур'ёзнага папроку раённаму аддзелу культуры і яго загадчыку тав. Бураку. Ведаючы, што паміж супрацоўнікамі Дома культуры няма зладжанасці ў рабоце, ён тым не менш не дбае пра ліквідацыю гэтых недахопаў.

Б. САСНОЎСКІ.

## Вечарамі на агітпункце

У памяшканні Марахораўскага сельскага клуба Жыткавіцкага раёна размешчан агітпункт. Вечарамі агітатары тут знаёмяць выбаршчыкаў з «Палажэннем аб выбарах у мясцовыя Саветы». Працуе стол даведак. Да паслуг выбаршчыкаў ёсць неабходная літаратура, вядзецца кніга пытанняў і адказаў, аформлена кніжная вітрына.

Добра працуе сельская лектарская група, якой кіруе дырэктар Марахораўскай сямігадовай школы М. Сасноўскі. Члены лектарскай групы выступаюць перад калгаснікамі сельгасарцелі імя Леніна з лекцыямі і дакладамі. За апошні час выбаршчыкі праслухалі лекцыі — «Савецкі выбарчы закон — самы дэмакратычны ў свеце», «Рашэнні студзеньскага Пленума ЦК КПСС — баявая праграма крутога ўздыму сельскай гаспадаркі», аб міжнародным становішчы і інш.

Пры клубе працуюць гурткі мастацкай самадзейнасці. Цяпер самадзейныя артысты рыхтуюць новую канцэртную праграму, з якой выступяць перад выбаршчыкамі.

М. ЖУРА.

## У клубе гараць агні

У вялікай зале вольна і шырока плыве песня В. Мурадэлі «Молодежь, здравствуй!», а за ёю — «Аб шчаслівай нашай долі» Ю. Семянякі, «Ой, ты Нёман родны» П. Шыдлоўскага, народная «Грушыца»... Хор спявае задушэўна, зладжана і натхнёна. Нельга не заслухацца. Затым выступаюць майстры мастацкага слова, выканаўцы інтэрмедый. У зале выбухаюць бурныя воплескі, воклічы задавальнення. Асаблівым поспехам карыстаецца механізатар Міця Казак. Ён майстар складаць і співаць прыпеўкі на мясцовыя тэмы:

— Ішла б у даяркі ты, Маруся.
— З непрывычкі я стамлюся!
— Ну, кармі ты, Маня кур.
— Ой, сатрэцца манікюр!

У зале грыміць дружны рогат. Усе аглядаюцца на Марыю Сцепанюк. Яна, пачырванеўшы, апусціла галаву.

Канцэрт скончыўся, але гледачы яшчэ доўга не разыходзяцца.

— Ну і прапясочылі!

— Вось малайцы! Так ім і трэба, лодырам!

А даяркі Ніна Вялічка і Марыя Місіевіч, настаўніца Соф'я Барэйша, трактарыст Павел Паўловіч і іншыя самадзейныя артысты ўжо вядуць гаворку аб планах наступнага канцэрта.

Не толькі адной самадзейнасцю вядомы ў Драгічынскім раёне Аляксееўскі сельскі Дом культуры, якім вось ужо 12 год нязменна кіруе Надзея Панцялееўна Пракаповіч. Асяродак культуры вабіць наведвальнікаў сваім вонкавым выглядам і ўнутраным афармленнем. У памяшканні ўтульна, усё тут спрыяе разумнаму адпачынку. На сталах — свежыя газеты, часопісы. Тут ёсць радыёпрыёмнік, музычныя інструменты.

На яркае святло клуба ўвечары ахвотна ідзе народ. Кожны ведае: будзе штосьці новае, цікавае.

Настаўнікі мясцовай сямігадовай школы В. Анікееў, Н. Барэйша, Д. Кударэнка, М. Чаховіч арганізавалі ў клубе цыкл лекцый «Што дала Савецкая ўлада сялянам вёскі Аляксеевічы». В. Анікееў прапагандуе атэістычную літаратуру.

У сасновым бары, недалёка ад вёскі Субаты, каля «святой крыніцы» некалькі разоў у год збіралася многа веруючых. Сюды задоўга да «ўрачыстасцей» прыязджалі папы і, не саромеючыся, абдзіралі, як ліпку, даверлівых дзядоў і бабулек. Хадзіла туды часамі і мясцовая моладзь.

Актывісты клуба вырашылі раскрыць міф «святой» крыніцы. Лектары — камуністы і камсамольцы правялі сярод калгаснікаў гутаркі, у якіх выкрывалася хлусня папоў. У бібліятэцы быў абсталяваны куток «Рэлігія — опіум народа», дзе было шмат антырэлігійнай літаратуры. Настаўнікі Ніна Кударэнка і Осіп Дубовік прачыталі ў брыгадах лекцыі «Ці існуе душа?», «Не верце папам», «Ці жыў Хрыстос?». Дзейсная агітацыя дала свае вынікі. У чарговы раз па «святую» вадзіцу ніхто не прыйшоў.

Нядаўна над уваходам у клуб з'явілася шыльда: «Аляксееўіцкі выбарчы ўчастак № 12—13 па выбарах у мясцовыя Саветы».

На агітпункце рэгулярна праводзяцца вечары выбаршчыкаў. За апошні час тут праведзены гутаркі «Вярхоўны Савет і яго паўнамоцтвы», аб міжнародным становішчы і інш.

К. РАБЫ.

## ГЕРОЙ ТВОРАЎ — НАРОД

Першае, што кідаецца ў вочы пры знаёмстве з экспазіцыяй рэспубліканскай мастацкай выстаўкі, тое, што асноўным героем твораў нашых мастакоў стаў народ. У лепшых з гэтых твораў адчуваецца дыханне сучаснасці, поступ сямігодкі.

Адзначаючы такі разгорнуты «паход» мастакоў у жыццё, трэба, аднак, адразу ж сказаць, што на выстаўцы даволі адчувальная і супярэчнасць паміж багаццем свежых назіранняў і адносна малой колькасцю палотнаў, якія б глыбока, творча ўвасаблялі іх. У экспазіцыі не вельмі багата карцін з шырока развітым сюжэтам, з тонкім псіхалагічным аналізам, яркай трактоўкай характараў.

Тэматычная карціна заняла на выстаўцы значнае месца.

Тэма большасці работ — праца рабочых і калгаснікаў нашай рэспублікі, будаўнікоў Салігорска і Полацка. Рад палотнаў прысвечаны быту савецкага чалавека, лірычнай тэме. Дыяпазон выстаўкі шырокі і адлюстроўвае многія бакі нашай рэчаіснасці.

Радасна і тое, што вядучае месца на выстаўцы занялі творы маладых мастакоў. Гэтым у многім тлумачыцца тэматычная і жанравая разнастайнасць, багацце мастацка-стылявых прыёмаў і манер, якія характарызуюць выстаўку.

Пры ўважлівым знаёмстве з экспанатамі можна заўважыць, што ў беларускіх мастакоў, асабліва ў маладых выявілася імкненне да шырокіх абагульненняў і манументальнасці вобразаў, да дэкаратыўнасці. Гэтыя тэндэнцыі, уласцівыя ўсяму савецкаму мастацтву, выразна відаць у сюжэтна-тэматычных палотнах і на нашай выстаўцы. Амаль самае прыкметнае — імкненне многіх беларускіх мастакоў працаваць над выразнасцю формы. Колер, прастора становяцца цяпер не проста сродкамі ўзнаўлення натуры і выкарыстоўваюцца не толькі для стварэння вонкавага эфекту — яны нясуць у сабе экспрэсію, ідэйную змястоўнасць. У гэтым лёгка пераконваемся, аналізуючы найбольш цікавыя жывапісныя творы.

Малады мастак М. Данцыг, ужо вядомы па папярэдніх выстаўках, і цяпер парадаваў цікавымі карцінамі. «Гудзе зямля салігорская» — так называецца адна з яго кампазіцый. У ёй мастак дасягае пераканальнага вобразнага раскрыцця тэмы. Суровыя яе фарбы, усё напоўнена стрыманым напружаннем і энергіяй. Да ўваходу ў капёр ідуць шахцёры. У перадвячэрнім змроку ззяюць іх лямпачкі, адлюстроўваючыся ў абмытай дажджом зямлі. Удалечыні ўзвышаюцца гмахі капроў з ярка асветленымі вокнамі. Там ні на хвіліну не сціхае шум машын... Сапраўды, гудзе зямля! Данцыг улавіў асаблівасці індустрыяльных пейзажаў, перавагу ў іх бурашэрых таноў; і ў гэтую, увогуле стрыманую каляровую гаму ўрываюцца яркія блікі агнёў. Яны перадаюць тое хваляванне, якое перажываў мастак. Фарбы ў Данцыга характэрны своеасаблівай строгай прыгажосцю, сугучныя кампазіцыі.

Другая карціна М. Данцыга «Я ведаю, будзе горад Салігорск» вырашана ў іншай каларыстычнай гаме. Добра прадумана і кампазіцыя твора. Набліжаныя да гледача фігуры дзвюх дзяўчат-будаўніц ствараюць настрой бадзёрасці і радасці. Удалечыні відаць карпусы новых будынкаў, якія патанулі ў блакітнай смузе. На фоне іх мажорна гучаць і белыя воблакі, і сакавіта напісаныя касцюмы работніц. Агульнае ўражанне ад карціны — свежасць.

На выстаўцы прадстаўлены работы яшчэ некалькіх мастакоў, па агульнай тэндэнцыі і па фармальна-жывапісных прыёмах блізкія да тых, аб якіх толькі што вялася размова. Перш за ўсё гэта палатно І. Стасевіча «Ангара, Ангара...» і яго ж «Пакарыцелі падунскіх парогаў». І. Стасевіч выязджаў на будаўніцтва Брацкай ГЭС, дзе напісаў багата эцюдаў, якія пакладзены ў аснову яго твораў. Назіранне натуры, бясспрэчна, садзейнічала нараджэнню праўдзівага, хвалюючага твора аб заключным этапе будаўніцтва — перакрыцці Ангары. Высока ўзнімаюцца гранітныя берагі Ангары, на якіх бачым спакойных, упэўненых у сваіх сілах мантажнікаў, зваршчыкаў — усіх, чые рукі і чыя нястрымная энергія перамаглі Ангару. Розныя гэта людзі. Вылеплены шырокімі мазкамі суровы і валявы твар немаладога рабочага справа. Маладосцю, некаторай бесклапотнасцю павявае ад твару і фігуры зваршчыка ў чырвонай кашулі. Адчуваецца, што працуюць гэтыя людзі добра, спорна! Твараў другіх не відаць: яны глядзяць туды, дзе з эстакады магутныя самазвалы скідваюць у ваду вялікія бетонныя глыбы. Мы верым, што праца аб'ядноўвае іх. Такому ўражанню ў многім садзейнічае напружаны і яркі каларыт твора, які добра раскрывае сутнасць падзей.

Аднак палатно не пазбаўлена недахопаў кампазіцыйнага характару. Раскрываючы той ці іншы сюжэт, мастак падпарадкуе ўчынкі герояў задуме, праз псіхалогію герояў раскрывае праўду жыцця. Правільна прадуманы сюжэт выключае выпадковасць у яго вырашэнні. Толькі тады і сам мастак вызваляецца ад стандартных прыёмаў.

У карціне І. Стасевіча не ўсе элементы дапамагаюць раскрыццю задумы. Так, напрыклад вобраз маладой маці на пярэднім плане, здаецца нам, не зусім апраўданы, бо адцягвае ўвагу ад цэнтральных вобразаў твора. Статычная фігура рабочага, у ёй не відаць ніякіх унутраных душэўных перажыванняў. Амаль такая ж і фігура дальняга плана. Дарэчы, індывідуальная псіхалагічная характарыстыка герояў у творах І. Стасевіча наогул слаба распрацавана, што, безумоўна, зніжае сілу іх уздзеяння на гледача. Гэта ўжо недахоп карцін не толькі аднаго І. Стасевіча, але і іншых мастакоў-жывапісцаў, якія без асаблівай увагі ставяцца да твару чалавека ў станковым жывапісу, дзе раскрыццё псіхалогіі, пачуццяў герояў зусім неабходна.

Гэта ж можна сказаць і пра цікавую карціну Ф. Бараноўскага «Шляхі-дарогі» аб падзеях грамадзянскай вайны. Сюжэт вельмі просты. Маладыя чырвонагвардзейцы на дахах цяплушак едуць на абарону рэспублікі Саветаў. Здавалася б, у мастака ёсць цудоўная магчымасць даць запамінальныя вобразы герояў грамадзянскай вайны. Але Бараноўскі не скарыстаў гэтай магчымасці, тым самым збядніў твор. Разам з тым, карціна Бараноўскага вабіць каларытам, жывапіснасцю, што збліжае яго з творчай манерай М. Данцыга, І. Стасевіча і інш. Палотны гэтых мастакоў прыкметна вылучаюцца на выстаўцы жывапіснай прыгажосцю, пра што варта сказаць і што неабходна падкрэсліць, бо не ўсе нашы мастакі па-сапраўднаму выкарыстоўваюць і правільна ацэньваюць магчымасці каларыту. А колер, як вядома, — адзін з найбольш моцных сродкаў эмацыянальнага ўздзеяння ў выяўленчым мастацтве. Іменна таму радасна адзначыць, што на выстаўцы прагучалі галасы мастакоў, у чыіх карцінах колер дадзены на поўную сілу, цікава, свежа.

Гэта тым больш трэба вітаць, што на мінулай выстаўцы гучалі папрокі — і зусім заслужаныя! — у тым, што жывапіс некаторых карцін бязгучны, цёмны, а часам і проста брудны.

(Заканчэнне на 2-й стар.).



В. ЖОЛТАК. Восень.

## Ад Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР з глыбокім жалем паведамляе, што 4 лютага 1961 года пасля цяжкай і працяглай хваробы памёр дэпутат Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР **Гаўрыленка** Павел Нікіфаравіч.

# Чытаючы кнігу крытыка...

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

«Увага пісьменіка засяроджана на праблемах умацавання працоўнай дысцыпліны ў калгасах».

Ізноў, як бачым, ігнаруецца чалавеказнаўчая, эстэтычная сутнасць твора.

Дарэчы, і сам крытык выказваецца супраць падобнага рацыяналістычнага падыходу да літаратурных з'яў:

«Літаратура... не можа дазваляць сабе штучныя размежаванні: вось у гэтым творы трактуецца праблема сям'і, а ў гэтым — праблема школы ці працоўнага выхавання падрастаючага пакалення. А такое размежаванне мы, на вялікі жаль, сустракаем у многіх творах».

І гэта крытык гаворыць пасля таго, як сам жа на многіх старонках кнігі аддаў даніну падобнаму «штучнаму размежаванню» твораў па «праблемах»...

На адной і той жа старонцы амаль побач чытаем:

«І. Шамякіна... прывабіла праблема, якую рэальнае жыццё не аднойчы падказвала нашай літаратуры: інтэлігенцыя і народ». І далей: «Для герояў рамана «Крыніцы» нават не існуе такой праблемы, такога падзелу: інтэлігенцыя і народ».

Незразумела, чаму пісьменнік, нягледзячы на тое, што ў рэальным жыцці яго герояў не існуе такой «праблемы», тым не менш чамусьці «прывабіўся» ёю. Нешта тут, відаць, не зусім дакладна сфармулявана крытыкам. А калі недакладна сфармулявана, значыць — недастаткова прадумана.

Гэтым галоўным недахопам у зыходных пазіцыях, які па сутнасці з'яўляецца праявай механічнага адрыву зместу ад формы, элементам сацыялагізму, на нашу думку, тлумачацца і астатнія недахопы кнігі.

Не гаворачы падрабязна пра аднастайныя прыёмы падачы матэрыялу, штампаваныя фармуліроўкі, сухасць стылю, падкрэслім, што даволі часта тыя ці іншыя меркаванні крытыка могуць быць аднесены да зусім розных майстроў, бо індывідуальнае аблічча кожнага з іх застаецца для нас тайнай за сямю пячаткамі, нягледзячы на тое, што змест іх творчасці і ідэйная яе накіраванасць прааналізаваны дастаткова поўна.

Сапраўды, хоць аналіз эстэтычны, як нам здаецца, не з'яўляецца моцнай рысай Герцовіча, але наколькі цікавей чытаецца яго артыкул пра дзіцячую літаратуру, дзе такі аналіз ёсць у большай меры, чым, скажам, у артыкуле «Літаратура і сучаснасць», у якім індывідуальныя рысы почырку кожнага з майстроў, пра якіх ідзе гутарка, амаль не закранаюцца.

Гаворыць, напрыклад, Герцовіч пра П. Пестрака:

«Пісьменніка цікавяць ідэйныя і маральныя матывы паводзін нашага сучасніка...»

Гэтыя словы можна сказаць аб кожным з пісьменнікаў, пра якіх вядзе крытык гутарку. Пра індывідуальны падыход П. Пестрака да паказу ідэйных і маральных матываў паводзін нашых сучаснікаў мы не атрымліваем уяўлення з разважанняў крытыка.

Крытык, гаворачы пра аповесць «Блакітнае ззянне», ставіць у заслугу Р. Сабаленку тое, што «амаль усе героі гэтага твора жывуць і дзейнічаюць у адпаведнасці са сваімі характарамі». Ён не заўважае, што без гэтай умовы твора проста не было б: гэта не заслуга пісьменніка, а неабходная ўмова існавання твора ў межах мастацкай літаратуры. І не гэта трэба падкрэсліваць, аналізуючы твор.

Нямала ў кнізе моўных агрэхаў, якія зусім недарэчныя пры размове аб **мастацкай** літаратуры:

«Аповесць Ул. Шыціка многа выйграла б, калі б аўтар, трактуючы важную праблему...» (трактуюць у трактатах, а не ў мастацкіх творах).

Або, скажам, такога роду афарызмы:

«Адно бясспрэчна: жыццё не стаіць на месцы»; «...кожны перыяд у жыцці народа мае свой пафас...» Або нязграбныя сказы, накшталт:

«Лірыка па самой сваёй жанравай сітуацыі (!) не цураецца (?) асабістай споведзі».

«У нас ёсць нямала твораў, якія трактуюць (!) праблему (!) барацьбы з паразітызмам». (Гэта ўжо амаль як пра нейкую навукова-папулярную брашуру).

Наўрад ці сведчаць у карысць эстэтычнага густу крытыка, калі ён прыводзіць, дадатна ацэньваючы твор, такія сухія словы персанажа:

«Мне, апрача ўсяго, падабаецца сама ідэя гэтай справы. Сапраўды, чаму б нам не заняцца гісторыяй сваёй вёскі, а можа, і шырэй паглядзець на гэта — не толькі сваёй, а і суседніх, якія звязаны з нашай школай і калгасам. І не толькі гісторыяй, і геалогіяй, і фальклорам. Вось што перш за ўсё бачу я ў вашай рабоце». Такой суконнай мовай размаўляе са сваімі выхаванцамі дырэктар школы, а крытык не заўважае гэтага. Ён прыводзіць гэтыя словы, відаць, таму, што ў іх сфармулявана «праблема»...

Адзначаныя недахопы, на наш погляд, істотныя ў кнізе пра літаратуру. Тым не менш кніга крытыка паспрыяе справе папулярызацыі сучаснай беларускай савецкай літаратуры. А хацелася б, каб яна не толькі тлумачыла змест твораў, папулярызавала іх, але і выхоўвала ў чытачоў эстэтычны густ.

**Ул. БОЙКА.**

## Т. Самойлава ў Парыжы



Парыжане цёпла сустрэлі савецкую артыстку Тацяну Самойлаву, знаёмую французскаму гледачу па кінакарціне «Ляцяць жураўлі», якая доўгі час не сыходзіла з экранаў сталіцы Францыі. У час знаходжання ў Парыжы, куды яна прыехала ў сувязі з маючай адбыцца прэм'ерай фільма «20 тысяч лье па зямлі» (рэжысёр М. Пальеро; у галоўных ролях — Л. Зітрон, Т. Самойлава, Ж. Гавэн), савецкая артыстка наведала кінастудыю ў парыжскім прыгарадзе Бійанкурэ і сустрэлася там з вядомымі французскімі кінаакцёрамі.

У параднай зале парыжскага атэля «Ройяль-Монсо» ва ўрачыстай абстаноўцы адбылося ўручэнне Т. Самойлавай ганаровай прэміі Французскай акадэміі кінематаграфіі за 1960 год — «Крыштальная зорка». Гэтай прэміі савецкая артыстка ўдастоена за бліскучае выкананне галоўнай ролі ў кінафільме «Ляцяць жураўлі», які атрымаў сусветнае прызнанне.

НА ЗДЫМКУ: **Т. Самойлава** з ганаровай прэміяй Французскай акадэміі кінематаграфіі «Крыштальнай зоркай».

**Фота агенцтва Дальмас.**



**Каб стаць** кваліфікаванай мантажніцай кінакарціны, неабходна правільна разбіраць матэрыял па эпізодах у адпаведнасці са сцэнарыем, ведаць тэхніку і тэхналогію здымкаў, мантажнае абсталяванне, апрацоўку плёнкі і нават правілы пажарнай бяспекі. Усё гэта на першы час здалося не пад сілу Лідзіі Малахавай, калі яна са школьнай парты ўпершыню прыйшла вучаніцай на студыю «Беларусьфільм». Доўгі час у яе не атрымлівалася правільная сінхранізацыя паказу з гукам, што з'яўляецца найскладанейшай аперацыяй у мантажы фільма. На дапамогу прыйшла вопытны асістэнт рэжысёра Е. Аксёнак. Яна рабіла мантаж фільмаў «Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Веснавыя навальніцы» і інш. Многім ёй абавязана Л. Малахава.

З таго часу прайшло чатыры гады. Камсамолка Л. Малахава стала вопытнай работніцай. Яна ўдзельнічала ў мантажы многіх карцін.

Вось адна з іх — поўнаметражны мастацкі фільм «Расказы пра юнацтва». Па задуме аўтараў сцэнарыя ён складаецца з чатырох самастойных навел, якія расказваюць пра слаўныя справы Ленінскага камсамола за сорак год.

**На здымку:** (злева направа) асістэнт рэжысёра па мантажу **Е. Аксёнак** і мантажніца **Л. Малахава** праглядаюць зманціраваныя кадры.

Фота **Э. Рысаева.**

# Чалавека пакрыўдзілі...

У Ленінскім раённым аддзяленні міліцыі нам паказалі пухлую папку. Гэтай папкі магло і не быць, калі б шафёр Анатоль Ушакоў больш спакойна ехаў па Школьнай вуліцы. Ён вёў машыну з недазволенай хуткасцю, хоць добра ведае правілы вулічнага руху.

Стары чалавек Гофман, інвалід, абапіраючыся на кіёк, пераходзіў вуліцу. Раптам ён убачыў машыну, якая імкліва наязджала на яго. Хутчэй перабегчы вуліцу ў Гофмана не было ні часу, ні сілы. Ён, ратуючыся, разгублена толькі мог прыўзняць свой кіёк.

У сваім тлумачэнні Анатоль Ушакоў так апісаў гэты драматычны момант:

— Выйшаў наперад адзін грамадзянін і ўдарыў палкай па праваму лабавому шклу, якое тут жа разбілася на кавалкі...

У кузаве машыны знаходзіліся рабочыя Мінскага водаканалтрэста А. Селянікаў, Б. Ярашэвіч, М. Баранаў, В. Радзеўскі. Іх таксама папрасілі расказаць, што здарылася ў той момант, калі раптоўна на Школьнай вуліцы прыпынілася машына, у якой яны ехалі.

Вось што яны напісалі калектыўна:

— Мы ехалі на ліквідацыю аварыі... На перакрыжаванні з Нямігі на плошчу Свабоды раптам машына прыпынілася і мы пачулі крык і звон шкла. Ля машыны сабраўся натоўп людзей, сярод якога быў адзін чалавек з кіем. Як мы пазней даведаліся ад шафёра і свайго брыгадзіра, гэты чалавек кіем разбіў у машыне лабавое шкло... Мы гэтаму грамадзяніну дапамаглі сесці ў машыну і павезлі яго ў міліцыю.

А Мікалай Кручанок, які сядзеў побач з шафёрам у кабіне, так сфармуляваў тое, што бачыў:

— Як толькі я адчыніў дзверцы кабіны, чалавек з палкай ударыў ёю мяне з усяе сілы, затым — па лабавому шклу... Мы папрасілі гэтага грамадзяніна сесці ў машыну, але ён пачаў супраціўляцца і пагражаць нам. Тады мы пасадзілі яго ў кузаў і адвезлі ў міліцыю...

Значыць, Гофман не проста ўзняў кій, каб спыніць машыну, а скарыстаў яго ў якасці зброі: выцяў Кручанка, маладога, дужага хлопца, і ў дадатак яшчэ разбіў шкло ў машыне. Такога чалавека варта было завезці ў міліцыю. Каб Гофман, скажам, не ўдарыў па лабавому шклу, не крануў Кручанка, то не было б падставы «дапамагаць яму сесці ў машыну» і везці яго ў міліцыю!

На самай жа справе нічога гэтага не было. Старшы дзяржаўтаінспектар Ленінскага раёна тав. Раманенка агледзеў аўтамашыну № БО 64—50 і запісаў: «Лабавое шкло на аўтамашыне не заменьвалася, трэшчын на ім няма». Кручанка не толькі кіем, але і пальцам Гофман не крануў.

Навошта ж Ушакову, Кручанку і яшчэ чатыром хлопцам спатрэбілася фабрыкаваць гэтую гісторыю, у якой ад пачатку да канца наўмысна ўсё было выдумана: і напад, і пагрозы, і хуліганства старога чалавека? Аднаго яны не выдумалі — сапраўды, Гофман супраціўляўся. Але варта разабрацца, што гэта было за супраціўленне.

Калі Ушакоў націснуў на тармазы і прыпыніў машыну, то ён, абураны, адразу ж выскачыў на брук:

— Не ведаеш правілаў руху? — накінуўся ён са сваркаю на Гофмана.

Збялелы, перапалоханы Гофман, які ледзь не трапіў пад машыну, стаяў і не мог прамовіць слова.

— Чаго там з ім размаўляць? — крыкнуў з кузава адзін са слесараў. — Адбяры ў яго кій!

Ушакоў і Кручанок заламалі Гофману рукі і пачалі адбіраць у інваліда кій...

Заўважым, рану на назе Гофман атрымаў яшчэ ў час грамадзянскай вайны. Са снежня 1917 г. ён на працягу васьмі год змагаўся спачатку ў радах Чырвонай гвардыі, а потым у Чырвонай Арміі з ворагамі рэвалюцыі. Ён удзельнічаў і ў Айчыннай вайне супраць гітлераўскіх захопнікаў. Пятнаццаць год ужо ходзіць Гофман з кіем.

Гофман з усяе сілы абедзьвума рукамі трымаў кій. Тады Ушакоў і Кручанок пачалі яму выкручваць рукі, пасля біць. Урэшце на руках Гофмана з'явілася кроў...

— Чаго там з ім важдацца, — крыкнулі з машыны, — давай яго сюды, у кузаў.

Ушасцярых, узяўшы за ногі і рукі інваліда, ускінулі старога чалавека ў кузаў.

Праз колькі хвілін машына была ля будынка ўпраўлення міліцыі Мінскага аблвыканкома.

— Прыміце хулігана, — сказалі хлопцы з машыны БО 64—50 дзяжурнаму па ўпраўленню т. Аплінскаму. — Ён парушаў правілы вулічнага руху і затрымаў нашу машыну...

Гофман папрасіў Аплінскага запісаць прозвішчы людзей, якія прывезлі яго ў міліцыю. Ён паказаў дзяжурнаму свае акрываўленыя рукі, запэцканы ў мазуту касцюм. У яго балела ў грудзях ад удараў.

Ушакоў адразу ж пагнаў машыну з плошчы Свабоды. Тым часам Аплінскі прапанаваў Гофману.

— Ідзіце дахаты, бацька...

Пасля таго, як Гофман звярнуўся ў газету за дапамогай, мы наведалі старшага памочніка пракурора рэспублікі В. Пракудовіча і папрасілі ў яго дазволу пазнаёміцца са справай Гофмана.

— А навошта гэта вам? — запытаў т. Пракудовіч.

— Чалавека ж пакрыўдзілі...

— Для газеты ў ёй няма нічога цікавага. Я б не раіў вам марна траціць час.

Мы прытрымліваліся іншага пункту гледжання. Яшчэ раз папрасілі дазволу прагледзець справу.

— Не маю права дазволіць вам гэта...

— Можа нам звярнуцца да пракурора рэспублікі?

— Усё роўна гэта вам нічога не дасць.

— А як жа быць?

— Добра, — сказаў раптам т. Пракудовіч, — прынясіце ад рэдактара пісьмовую просьбу і мы, мабыць, дазволім тады вам...

З пісьмовым дазволам мы з'явіліся ў Ленінскі райаддзел міліцыі.

— Я ўжо ведала, што вы прыдзеце, — сказала нам следчы т. Барадзіна. — Гэты Гофман у мяне ў пячонках сядзіць. Ходзіць і ходзіць колькі месяцаў. Што трэба чалавеку — ён пэўна і сам не ведае. Ён жа без усякай падставы прыпыніў аўтамашыну! Гэта ж факт. І яшчэ, бачыце, незадаволены, што мы збіраемся гэтую справу перадаць на разгляд таварыскага суда Мінводаканалтрэста. Дзіва з гэтага Гофмана!

Дзіва, дый годзе. Больш чатырох месяцаў мінула з таго дня, як хуліганы з Мінводаканалтрэста не толькі груба зняважылі, але і збілі, як гэта сведчыць судовая экспертыза, старога чалавека, а хуліганы яшчэ і сёння не панеслі за гэта ніякага пакарання! Хіба ж гэта не дзіўна?

Нам незразумела, чаму стаяць на баку гэтых асоб некаторыя работнікі пракуратуры і міліцыі?..

**Ул. МЯЖЭВІЧ.**

*СА СПРАВАЗДАЧНА-ПЕРАВЫБАРЧАГА СХОДУ СЕКЦЫІ ДЗІЦЯЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ*

# Творчай размовы не адбылося

Днямі сабраліся дзіцячыя пісьменнікі, каб пагаварыць пра сваю работу ў мінулым, 1960 годзе і вызначыць шляхі далейшага развіцця дзіцячай літаратуры.

Старшыня секцыі Эдзі Агняцвет зрабіла справаздачны даклад. З яго можна было даведацца, што работа пісьменнікаў была даволі плённай. Адно пералічэнне выдадзеных і падрыхтаваных да выдання кніг паказвае шырокі размах творчай работы вялікага калектыву пісьменнікаў. 1960 г. прынёс дзецям нямала новых, цікавых кніг.

У першую чаргу, кажа дакладчыца, хочацца назваць кнігу казак Уладзіміра Дубоўкі «Цудоўная знаходка», Васіля Віткі «Казку пра цара зубра», аповесць пра Вялікую Айчынную вайну Алеся Якімовіча «Смелыя людзі», вершаваную казку Максіма Лужаніна «Хто робіць пагоду».

На кніжных паліцах з'явіліся: аповесць «Ты не адзін» Алеся Пальчэўскага, зборнікі апавяданняў Васіля Хомчанкі «Рукавіцы генерала Даватара», Міколы Гамолкі «Шлях адкрыты», Пятра Рунца «Канец казкі», Лідзіі Арабей «Калібры», Айзіка Платнера «Палаючае сэрца», «Дзедава рэліквія» Івана Шуцько, аповесці «Вальс Грыбаедава» Барыса Бур'яна, «Апошняя яўка» Уладзіміра Мехава, «Пабярэжцы» Міколы Ваданосава.

Выйшлі новыя цікавыя творы, прысвечаныя Уладзіміру Ільічу Леніну. Гэта першая частка паэмы Анатоля Вялюгіна «Вецер з Волгі», прысвечаная дзіцячым і юнацкім гадам Леніна, апавяданні Ядзвігі Бяганскай, Васіля Хомчанкі, Міколы Гамолкі, напісаныя з добрым мастацкім густам.

Андрэй Александровіч выдаў кнігу «Падарунак дзеткам-малалеткам», Язэп Пушча напісаў цікавую вершаваную казку «На Бабрыцы», Станіслаў Шушкевіч падрыхтаваў новы зборнік вершаў для школьнікаў «Мы на змену ідзём».

Зусім нядаўна выйшла новая кніжка вершаў для дзяцей Кастуся Кірэенкі «Сад піянерскі».

Новыя вершы для дзяцей і юнацтва напісалі Сяргей Грахоўскі, Ніл Гілевіч, Іван Муравейка, Айзік Платнер, Артур Вольскі.

У 1960 г. выйшлі ў свет зборнікі маладых аўтараў Генадзя Шманя, Віктара Шымука, Уладзіслава Нядзведскага, Паўла Ткачова, Яраслава Пархуты, Авяр'яна Дзеружынскага, неўзабаве выйдзе зборнік Марыі Майсеевай. У піянерскім друку з'явілася цікавая аповесць М. Герчыка.

У пачатку новага года выйшаў першы том выбраных твораў старэйшага дзіцячага пісьменніка Янкі Маўра, хутка выйдзе аднатомнік Віталія Вольскага.

Новыя аповесці напісалі Павел Кавалёў («Лёнька Гром»), Ул. Шахавец («Крылаты дзень»), Алесь Шашкоў («Лань—рака лясная») і Хвёдар Жычка («Піфагоравы штаны»). Працуе над аповесцю «Адгукніся, мама!» Валянцін Зуб. Цікавасць юных чытачоў выклікала аповесць Усевалада Краўчанкі «Злачынства каля Зялёнай тоні».

Новыя творы для дзяцей напісала Ядзвіга Бяганская.

Абяцае ў гэтым годзе закончыць вершаваную казку для малых Міхась Калачынскі.

Выйшлі кнігі апавяданняў і нарысаў маладых пісьменнікаў-журналістаў Яўгена Курто і Георгія Шыловіча. «Бярозка» пачала друкаваць новую аповесць пра Айчынную вайну Вячаслава Марозава. Аднаактовыя п'есы для дзіцячай самадзейнасці пішуць Х. Мальцінскі і Р. Рэлес.

З кожным годам Дзяржаўнае выдавецтва БССР выдае ўсё больш твораў для дзяцей. Калі ў 1960 г. было выдадзена 65 назваў кніг тыражом у мільён сто семьдзесят шэсць тысяч экземпляраў, то ў 1961 г. будзе выдадзена 90 назваў дзіцячых кніг тыражом больш двух мільёнаў экземпляраў. Дзяцей не тычыцца выдуманы канфлікт паміж лірыкамі і фізікамі. Яны любяць і паэзію, і прозу — з адной толькі «маленькай» умовай, каб гэта было напісана добра, разумна, займальна, цікава...

Дакладчыца адзначыла, што ўлетку мінулага года адбылася сур'ёзная творчая размова па пытаннях дзіцячай літаратуры на рэспубліканскай нарадзе, скліканай Саюзам пісьменнікаў, ЦК ЛКСМБ, Міністэрствам асветы БССР і Дзяржаўным выдавецтвам. На гэтай нарадзе адзначалася, што пісаць для дзяцей — значыць думаць пра чалавека будучыні, бо поспех выхавання падрастаючага пакалення ў многім залежыць ад пісьменнікаў, асабліва дзіцячых.

У дакладзе ўдзялялася шмат увагі рабоце дзіцячых часопісаў «Бярозка» і «Вясёлка», газетам «Піянер Беларусі» і «Зорка», гаварылася аб выданнях беларускіх кніг у братніх рэспубліках. Але недаравальна тое, што яшчэ дзе-нідзе абыякава, фармальна ставяцца некаторыя бібліятэкі і арганізацыі да правядзення літаратурных вечароў і дыспутаў.

Здавалася, даклад выкліча шмат цікавых размоў пра творчыя дасягненні і далейшае развіццё дзіцячай літаратуры. Выступленняў было сапраўды шмат, але дзелавой творчай размовы не атрымалася.

Я. Бяганская запрашала пісьменнікаў больш актыўна ўдзельнічаць у рабоце радыё, М. Гамолка і А. Пальчэўскі гаварылі пра неабходнасць правядзення літаратурнага конкурсу для выяўлення новых аўтараў. Ус. Краўчанка падтрымаў гэту думку. Пісьменнік І. Грамовіч лічыць неабходным пісаць аб перабудове школы і набліжэнні яе да жыцця.

Аб неабходнасці больш частага наведвання пісьменнікамі сельскіх школ гаварыў Н. Гілевіч.

У спрэчках прынялі ўдзел М. Герчык, П. Рунец, М. Хведаровіч, С. Шушкевіч і А. Якімовіч і інш.

У новае бюро секцыі абраны Э. Агняцвет (старшыня секцыі), Я. Бяганская, М. Гамолка, Ус. Краўчанка, А. Пальчэўскі, Ул. Шахавец і А. Якімовіч.

ПА КАНЦЭРТНЫХ ЗАЛАХ

## З удзелам маскоўскага скрыпача

Лаўрэат міжнародных конкурсаў скрыпач В. Пікайзен, які выступіў з канцэртамі ў Мінску,—прадстаўнік маладога пакалення савецкіх музыкантаў. Ён вучань народнага артыста СССР Д. Ойстраха і ў многім адчуў творчы ўплыў свайго выдатнага педагога. Найбольш характэрная рыса творчага аблічча маладога скрыпача—бліскучая, сапраўды бязмежная віртуознасць. Тэхнічны бок выканання В. Пікайзена бездакорны.

Сольная праграма скрыпача ўключала творы разнастайных стыляў. Найбольш удала былі выканаты В. Пікайзенам саната рэ мажор Л. Бетховена, канцэрт № 4 В'етана, саната Э. Ізаі і «Імправізацыі» Э. Блоха. Асабліва мякка і пранікнёна сыграў артыст другую частку бетховенскай санаты.

Сур'ёзнае пярэчанне выклікае выкананне В. Пікайзенам Пятай санаты І. Баха—аднаго з найцяжэйшых твораў скрыпічнага рэпертуару. Скрыпач сыграў яе холадна і фармальна, не паказаўшы глыбіні і чалавечнасці бахаўскай музыкі. Апроч буйных твораў, В. Пікайзен іграў рад мініяцюр: «Накцюрн» Скрабіна, «Мелодыю» Чайкоўскага, «Маскі» з балету «Рамео і Джульета» Пракоф'ева, п'есы Сарасатэ, Крэйслера, Брамса. Партыю фартэпіяна ўпэўнена і выразна правяла піяністка А. Курыс. Праўда, у санаце Бетховена хацелася б большай яркасці ў фартэпіяннай партыі.

З сімфанічным аркестрам нашай філармоніі В. Пікайзен іграў канцэрт Бетховена. Ярчэй за ўсё прагучаў фінал. У першых жа дзвюх частках скрыпач яўна «зацягнуў» тэмпы, у выніку чаго знікла цэласнасць і стройнасць формы.

У гэтым жа канцэрце сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам М. Нерсесяна выканаў Пятую сімфонію Бетховена і сімфанічную паэму Р. Штрауса «Тыль Уленшпігель». Бетховенскай сімфоніяй М. Нерсесян дырыжыруе ў сёлетнім сезоне другі раз, і трэба сказаць, што на гэты раз куды больш удала. Дырыжор здолеў знайсці правільны «ўнутраны рытм» твора і добрыя аркестравыя фарбы.

Выкананне ж аркестрам «Тыля Уленшпігеля» паказала, што нават тыя творы, якія даўно ўвайшлі ў рэпертуар, трэба старанна рыхтаваць, перш чым выносіць іх на эстраду. Неахайнае, «сырое» выкананне паэмы Р. Штрауса сведчыць, што дырыжор і аркестр яўна знізілі сваю мастацкую патрабавальнасць.

**Дзм. АЛЯКСАНДРАЎ.**

# П. Н. ГАЎРЫЛЕНКА

4 лютага пасля цяжкай і працяглай хваробы на 59-м годзе жыцця памёр старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, член КПСС з 1927 года, мастак Павел Нікіфаравіч **Гаўрыленка.**

Смерць забрала ў нас аднаго з самых дзейных стваральнікаў беларускага савецкага выяўленчага мастацтва, аднаго з першых арганізатараў Саюза мастакоў Беларускай ССР.

П. Н. Гаўрыленка нарадзіўся ў 1902 годзе ў вёсцы Касцюкоўка Гомельскай вобласці, у сям'і селяніна-бедняка. У 1922 годзе ён уступіў у рады Ленінскага камсамола, з 1923 па 1925 год служыў у радах Чырвонай Арміі. У 1926 годзе П. Н. Гаўрыленка паступае вучыцца ў Віцебскі мастацкі тэхнікум.

Пасля сканчэння тэхнікума ў 1930 годзе становіцца пастаянным удзельнікам усіх беларускіх мастацкіх выставак, стварае цэлы рад твораў, прысвечаных важнейшым тэмам будаўніцтва сацыялізма ў Беларусі.

З 1930 года П. Н. Гаўрыленка працуе ў Мінску, многа сіл і энергіі аддае арганізацыі творчага калектыву мастакоў рэспублікі. З моманту стварэння ў 1933 годзе Саюза мастакоў БССР ён да 1936 года з'яўляўся старшынёй яго аргкамітэта, а з 1937 года па 1941 год—сакратаром партыйнай арганізацыі.

З пачатку Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся ў радах Савецкай Арміі, а з снежня 1942 года па 1947 год працаваў начальнікам аддзела выяўленчага мастацтва Упраўлення па справах мастацтваў пры Савеце Міністраў БССР.

У гады Вялікай Айчыннай вайны і першыя пасляваенныя гады П. Н. Гаўрыленка стварыў цэлы рад твораў, прысвечаных гераічнай барацьбе беларускага народа за свабоду і незалежнасць сацыялістычнай Радзімы: «Прарыў нямецкай абароны», «На Палессі», «Пераправа», пранікнутых гарачым пачуццём савецкага патрыятызму, глыбокай верай у перамогу савецкага народа.

З 1950 года па 1954 год П. Н. Гаўрыленка працаваў галоўным мастаком беларускага павільёна Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі ў Маскве. Яго вялікая энергія і ўмелая арганізацыя творчага калектыву мастакоў садзейнічалі таму, што мастацкае афармленне беларускага павільёна на УСГВ стала буйным укладам у беларускае выяўленчае мастацтва пасляваенных год.

З 1956 года П. Н. Гаўрыленка з'яўляўся нязменным старшынёй праўлення Саюза мастакоў БССР.

Прынцыповы мастак, які горача адклікаўся ў сваёй творчасці на ўсё новае ў жыцці беларускага народа, П. Н. Гаўрыленка няўхільна праводзіў у творчай і арганізатарскай рабоце прынцыпы сацыялістычнага рэалізму, партыйнасці і народнасці мастацтва.

Заслугі П. Н. Гаўрыленкі высока адзначаны Савецкім урадам, ён быў узнагароджаны двума ордэнамі «Знак Пашаны» і медалямі, з'яўляўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

Жыццё П. Н. Гаўрыленкі было назаўсёды прыкладам беззаветнага служэння народу, справе развіцця беларускай сацыялістычнай культуры.

Памяць аб П. Н. Гаўрыленку, простым і скромным чалавеку, чулым і спагадлівым таварышу, назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

**В. Ф. Шаура, І. Ф. Клімаў, Р. Я. Кісялёў, М. А. Халіпаў, Д. А. Лукашэвіч, І. О. Ахрэмчык, З. І. Азгур, А. А. Бембель, Я. А. Зайцаў, В. В. Волкаў, А. К. Глебаў, А. П. Марыкс, П. В. Масленікаў, С. І. Селіханаў, Е. Б. Парватаў, П. С. Крохалеў, Е. В. Аладава, П. У. Броўка, Я. К. Цікоцкі, Р. Р. Шырма, Л. П. Александроўская, М. А. Савіцкі, У. У. Корш-Саблін, А. С. Гугель, П. П. Нікіфараў.**

**Міністэрства культуры БССР з глыбокім жалем паведамляе аб заўчаснай смерці старшыні праўлення Саюза мастакоў БССР, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР таварыша ГАЎРЫЛЕНКІ Паўла Нікіфаравіча і выказвае спачуванне сям'і памёршага.**

**Праўленне Саюза мастакоў БССР і Мастацкага фонду БССР, партыйная арганізацыя і мясцовы камітэт паведамляюць аб заўчаснай смерці старшыні праўлення Саюза мастакоў БССР, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР Паўла Нікіфаравіча ГАЎРЫЛЕНКІ і выказваюць глыбокае спачуванне сям'і і сваякам памёршага.**

**Праўленне Саюза мастакоў СССР глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці старшыні праўлення Саюза мастакоў БССР, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР ГАЎРЫЛЕНКІ Паўла Нікіфаравіча і выказвае спачуванне яго сям'і.**

**Пісьменнікі Беларусі глыбока смуткуюць з прычыны смерці выдатнага сабрата і таварыша па творчай працы, цудоўнага чалавека і мастака, старшыні праўлення Саюза мастакоў, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР ГАЎРЫЛЕНКІ Паўла Нікіфаравіча і выказваюць спачуванне ўсім сябрам, сваякам і блізкім памёршага.**

**ПРАЎЛЕННЕ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.**







«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара — 3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва — 3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі — 3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.

АТ 00062

Друкарня імя Сталіна.